

# Жабкі і Чарапашка

**П'еса паводле казкі Уладзіміра Караткевіча і дзіцячых гульняў**

АСОБЫ

Чарапашка.
1-я Жабка.
2-я Жабка.
3-я Жабка.
Жаба.
Салавей.

## З'ява першая

Балота. Хмызы ды чараты. Удалечыні блішчыць акенца вады. Фарбы – шэрыя, невыразныя. А яшчэ – і туман. Аднастайны і маркотны краявід выклікае сум і тугу.

Вось і маленькай няўклюднай Чарапашцы, з усяго відаць, тут сумна і адзінока. Яна сядзіць на купіне і гуляе са сваёй адзінай цацкай – самаробнай, сплеценай з балотнай травы Лялякай.

Чарапашка. Я – Чарапашка. Я жыву адна, і мне вельмі сумна. *(Паказвае Лялягу.)* А гэта – Ляляка. Ёй добра. У яе ёсць Чарапашка. Чарапашка любіць Лялягу, даглядае, расказвае казкі. Казкі пра Лялягу. *(Стаўляе Лялягу на купіну, сама сядае насупраць яе і пачынае апавядаць казку.)* Жыла-была на свеце Ляляка. Аднойчы села Ляляка ў лодку і паплыла па блакітнай рацэ да сіняга мора. На беразе мора стаяў прыгожы белы карабель. Села Ляляка на карабель і паплыла па сінім моры ў Індыйскі акіян. Даплыла да каралавага вострава, дзе жылі вялізныя акіянскія чарапахі. «Добры дзень, Чарапахі,– кажа Ляляка,– Я – Ляляка. Прыплыла па блакітнай рацэ, па сінім моры, па Індыйскім акіяне з далёкага зялёнага балота. Прывезла вам прывітанне ад вашае сястры – Чарапашкі». Спадабалася Ляляка чарапахам. «Заставайся, Ляляка, з намі,– кажуць акіянскія чарапахі,– на каралавым востраве. У нас тут цёпла і весела». «Не магу,– адказвае Ляляка.– Чакае мяне на далёкім балоце Чарапашка. Ёй там, на балоце, халодна і сумна». Села Ляляка зноў на прыгожы белы карабель. Паплыла па Індыйскім акіяне, па сінім моры да блакітнай ракі. Перасела ў лодку і вярнулася па блакітнай рацэ на зялёнае балота, да Чарапашкі. *(Уздымаецца, падпаўзае да купіны і зноў бярэ Лялягу да сябе. Сумна ўздыхае.)* Добра табе, Ляляка. У цябе ёсць Чарапашка, якая любіць цябе, даглядае і расказвае казкі. Чарапашку ніхто не любіць, не даглядае, не расказвае казак. У Чарапашкі няма нікога. *(Знікае ў чаратах.)*

## З'ява другая

Балота. Хмызы ды чараты. Удалечыні блішчыць акенца вады. Краявід быццам той самы. Можа, нават тое самае месца. Але як усё змянілася! Пасвяжэлі фарбы, разагнала разам з туманам сум і тугу. Адкуль такая перамена?

Можа, таму, што выглянула сонейка. А можа, таму, што па купінах скачуць тры сімпатычныя зялёныя Жабкі, і ад іх весялосці, ад іх шумных гульняў усё навокал прачынаецца і ажывае.

1-я Жабка. Мы – Жабкі!

2-я Жабка. Мы – зялёныя і сімпатычныя.

3-я Жабка. Мы любім вясёлыя, шумныя гульні. *(Скачуць адна за другой па купінах.)*

1-я Жабка *(скача)*. Гоп!

2-я Жабка *(услед)*. Скок!

1-я Жабка *(скача)*. Уперад!

2-я Жабка *(услед)*. Убок!

1-я Жабка *(скача)*. Праз пень!

2-я Жабка *(услед)*. Праз калоду!

1-я Жабка *(скача)*. Праз халодную ваду!

2-я Жабка *(скача)*. Лаві!

3-я Жабка. Уцякай!

1-я Жабка *(падпільнаваўшы)*. І хапай!

3-я Жабка ловіць 1-ю Жабку, якая не паспела пераскочыць на высокую купіну.

Відаць, што Жабкі не проста скачуць з купіны на купіну, а гуляюць у просценькую гульню, сэнс якой у тым, каб на адной купіне не было болей адной жабкі. Таму, калі 1-я Жабка пакідае сваю купіну, 2-я Жабка павінна адразу заняць яе месца, бо ўслед скача ўжо 3-я Жабка – яе чарга лавіць. На вольную купіну можа скочыць 1-я і 2-я Жабкі, тады 1-я Жабка займае яе месца і 3-я Жабка ловіць ужо 1-ю Жабку.

На гэты раз менавіта 1-я Жабка прамарудзіла, не паспела пераскочыць на купіну, пакінутую 2-й Жабкай, і яе схапіла 3-я Жабка.

3-я Жабка *(да 1-й Жабкі)*. Папалася! Твая чарга лавіць!

Гульня паўтараецца наноў.

Цяпер 1-я Жабка даганяе 3-ю Жабку, якая пераскоквае з купіны на купіну ўслед за 2-й Жабкай.

2-я Ж а б к а. Гоп!

3-я Ж а б к а. Скок!

2-я Ж а б к а. Уперад!

3-я Ж а б к а. Убок!

2-я Ж а б к а. Праз пень!

3-я Ж а б к а. Праз калоду!

2-я Ж а б к а, 3-я Ж а б к а *(сутыкнуўшыся)*. Ой!

На гэты раз гульня канчаецца нечакана хутка. 3-я Жабка скокнула ўслед за 2-й Жабкай яшчэ да таго, як тая пакінула сваю купіну і гоцнула на суседнюю, не занятую. Сутыкнуўшыся, абедзве Жабкі плюхаюцца ў ваду.

1-я Ж а б к а *(пляскае ў ладкі)*. У халодную ваду!

2-я і 3-я Жабкі выбіраюцца з вады на купіну і спрачаюцца, хто вінаваты.

2-я Ж а б к а *(да 3-й Жабкі)*. Ты водзіш!

3-я Ж а б к а. Чаму я?

2-я Ж а б к а. Ты паспяшалася!

3-я Ж а б к а. А ты прамарудзіла!

2-я Ж а б к а *(прыдумаўшы)*. Не хачу гуляць у гэтую гульню! Давайце ў іншую!

1-я Ж а б к а. А ў якую?

3-я Ж а б к а. У Лесавіка!

2-я Ж а б к а. Ай, не хачу бегаць!

1-я Ж а б к а. Тады – у Вадзяніка!

3-я Ж а б к а. Бр-р-р! Не хачу плаваць!

2-я Ж а б к а. Давайце гуляць у «Куст – дрэва – вецер». Не трэба ні бегаць, ні плаваць.

1-я Ж а б к а. Згода! Ты будзеш ветрам.

Жабкі пачынаюць гуляць у «Куст – дрэва – вецер». Гульня, таксама, як і папярэдняя,– вельмі простая. Яно і зразумела – адкуль Жабкам на балоце ведаць складаныя гульні?

2-я Ж а б к а. Ляцеў вецер, бачыць: стаіць дрэва.

1-я і 3-я Жабкі ўздымаюцца на заднія лапкі ва ўвесь рост і машуць пярэднімі лапкамі.

Ляцеў назад, бачыць: сядзіць куст.

1-я і 3-я Жабкі сядаюць на кукішкі і прыціскаюць лапкі да галавы.

Дрэва. Куст. Куст. Дрэва. Куст. *(Павялічвае тэмп.)* Дрэва. Дрэва. Куст. Куст... *(Вытрымаўшы паўзу.)* Куст! Ага: няправільна!

1-я Жабка «заваронілася»: калі 2-я Жабка сказала апошні раз «куст!» – яна паказала «дрэва»: узнялася на задніх лапках і замахала пярэднімі.

*(Да 1-й Жабкі.)* Мяняемся!

Пачынаюць гульню наноў, памяняўшыся ролямі.

1-я Жабка. Ляцеў вецер, бачыць: стаіць дрэва...

## З'ява трэцяя

Калі 2-я і 3-я Жабкі паказваюць «дрэва», з'яўляецца Жаба.

Жаба *(да гледачоў).* Я – Жаба. Зараз мы з Жабкамі будзем рэпеціраваць песню. А ўвечары прыляціць нас паслухаць сам Салавей. *(Перапыняе гульню і арганізоўвае спеўкі.)* Увага, увага! Жабкі, заканчваем гульні і пачынаем спеўкі. Сёння ўвечары мы выступаем перад маэстрам Салаўём!

1-я Жабка. Ура! Мы будзем спяваць!

2-я Жабка. Мы любім спяваць!

3-я Жабка. Мы ўмеем спяваць!

Жабкі рассаджваюцца на купінах і настройваюцца на спевы. Жаба займае месца насупраць і ўзмахвае лапкамі.

1-я Жабка, 2-я Жабка, 3-я Жабка *(разам)*

Ку-ааа, ку-ааа,
Кум-ма, Кум-ма,
Што вячэраць вар-рыла?
Ку-ааа, ку-ааа...

З чаратоў высоўваецца Чарапашка і назірае за рэпетыцыяй.

Ж а б а. Так, добра. А зараз — вышэй!

1-я Ж а б к а, 2-я Ж а б к а, 3-я Ж а б к а *(разам)*

Ку-ааа, ку-ааа,
Боршч, боршч,
Буракі, бура-кі-кі-кі,
Ку-ааа, ку-ааа...

Чарапашка высоўваецца далей і як зачараваная слухае Жабак.

Ж а б а. І яшчэ вышэй!

1-я Ж а б к а, 2-я Ж а б к а, 3-я Ж а б к а *(разам)*

Ку-ааа, ку-ааа,
Што вар-рыла,
Кум-ма, кум-ма?
Кум-ма, кум-ма
Боршчык вар-рыла,
Ку-ааа, ку-ааа...

Чарапашка, забыўшыся, пляскае ў ладкі: так ёй спадабаліся спевы Жабак.

Ж а б а. А гэта што за цуда-юда?

Ч а р а п а ш к а *(сарамліва)*. Я не цуда-юда. Я Чарапашка. *(Набраўшыся адвагі, выпаўзае з чаратоў да Жабак.)*

1-я Ж а б к а. Бачыць такога не бачылі!

2-я Ж а б к а. Чуць гэткага не чулі!

3-я Ж а б к а *(катэгарычна)*. Значыць, не можа цябе быць.

Ч а р а п а ш к а *(сумна)*. Ды ёсць жа я. Але як вы добра спяваеце! Каб яшчэ раз паслухаць.

Ж а б а *(улешчана)*. Што ж, можам паўтарыць. *(Заклікае Жабак да ўвагі, узмахвае лапкамі і пачынае дырыжыраваць.)*

1-я Ж а б к а, 2-я Ж а б к а, 3-я Ж а б к а *(разам)*

Ку-ааа, ку-ааа,
Кум-ма, кум-ма,
Што вячэраць вар-рыла?
Ку-ааа, ку-ааа,
Боршч, боршч,
Буракі, бура-кі-кі-кі,
Ку-ааа, ку-ааа,
Кум-ма, кум-ма
Боршчык вар-рыла,
Ку-ааа, ку-ааа...

Чарапашка ад задавальнення з усяе сілы пляскае ў ладкі, што, вядома, дадае ганарыстасці Жабкам.

Чарапашка. Як цудоўна! Жабкі-жабкі, прыміце мяне ў свой хор.

Жаба *(строга)*. А ты спяваць умееш?

Чарапашка. Не. Я слухаць люблю.

1-я Жабка. Дык і слухай.

2-я Жабка *(дадае)*. Здалёк.

3-я Жабка *(удакладняе)*. З чаратоў.

Жаба. Вось як навучышся спяваць – тады прыходзь.

Чарапашка. Мы, чарапахі, не ўмеем спяваць. Голасу нам не дадзена.

1-я Жабка. Дык нашто ты нам тады?

Чарапашка. А слухаць вас хто будзе? Хваліць?

2-я Жабка. Нас і так усе слухаюць.

3-я Жабка. І ўсе хваляць.

Чарапашка. Ну і я ціхенька сядзела бы ды хваліла.

Жаба. Дык ты, можа, яшчэ нешта ўмееш?

Чарапашка. Плаваць умею. Ныраць.

1-я Жабка. Гэта і мы ўмеем.

2-я Жабка. А скакаць умееш?

3-я Жабка. Гуляць у «Куст – дрэва – вецер»?

Чарапашка *(уздыхае)*. Не. Умею прыдумваць казкі.

3-я Жабка. Нашто нам твае казкі?

Разгубленая Чарапашка азіраецца на чараты: як бы схавацца назад.

1-я Жабка. Нічога чарапахі не ўмеюць!

2-я Жабка. А жабкі яшчэ нясуць ікру.

3-я Жабка. Жабурынне.

Чарапашка. Чарапахі замест ікры яйкі нясуць.

Жаба. Ф-фу, яйкі... Ну, паспрабуй усё ж заспяваць. Раптам атрымаецца?

Адважыўшыся, Чарапашка спявае (дакладней – рыпіць) без такту і мелодыі, але хутка сама разумее: не атрымалася.

3. Зак. 826

Ч а р а п а ш к а *(спявае)*

Свеціць месячык
З гары
На глыбокія
Віры.
На шчытах
У чарапах
Сіняе святло
Гарыць.

Ж а б а. Словы нішто сабе. Але ж голас...
1-я Ж а б к а. Бр-р-р-р!
2-я Ж а б к а. Жах!
3-я Ж а б к а. Жудасць!
Ч а р а п а ш к а. Дык я б вам – словы, а вы б спявалі.
1-я Ж а б к а. Словы і ў нас не горшыя.
2-я Ж а б к а. Самі прыдумалі!
3-я Ж а б к а *(напявае)*

Што вар-рыла,
Кум-ма, кум-ма?
Боршч, боршч,
Бур-ракі.

Ч а р а п а ш к а *(шчыра)*. Добрыя словы, але галасы ў вас лепшыя.

Ж а б а. А што гэта «шчыты ў чарапах»?

Ч а р а п а ш к а. А вось тое, што на мне. *(Паказвае жабам на панцыр.)*

Жабкі акружаюць Чарапашку і разглядаюць яе ўважліва, але без сімпатыі.

1-я Ж а б к а. Гэтае карычневае?
2-я Ж а б к а. Гэтае брыдкае?
3-я Ж а б к а. Ну не! Паглядзі, якія мы прыгожыя.

Жабкі дэманструюць перад Чарапашкай сваю прыгажосць.

1-я Ж а б к а. Зялёныя!
2-я Ж а б к а. Бліскучыя!
3-я Ж а б к а. Як лакіраваныя!
Ч а р а п а ш к а *(самотна)*. Жывыя – усе прыгожыя.
Ж а б а. Яна цвёрдая.

1-я Жабка. Быць не можа!

Самая смелая – 3-я Жабка – асцярожна дакранаецца да Чарапашкінага панцыра лапкай.

3-я Жабка. Ой! Яна ж як жалезная!

Чарапашка. Ну і што?

Жаба *(падводзіць вынікі)*. Скура ў цябе цвёрдая... Голасу ты не маеш... Куды такую ў наш хор?

Чарапашка. Усё роўна вы мне падабаецеся. Спяваеце прыгожа. Мне адной сумна... *(Пакрыўджаная, паўзе назад у чараты.)*

Жабкі, якія ўсхадзіліся не на жарт, скачуць вакол Чарапашкі, паказваючы на яе лапкамі.

1-я Жабка. Жалезная жаба! Гы-гы-гы!

2-я Жабка. А мы мяккія жабкі!

3-я Жабка. Зялёныя!

Чарапашка *(адбіваецца)*. Кожная жывёла – розная. А я – карысная.

1-я Жабка. І мы – кар-рысныя!

2-я Жабка. Спяваем і скачам!

3-я Жабка. А ў цябе голасу няма!

Чарапашка хаваецца ў чаратах. Жабкі насміхаюцца ёй услед.

1-я Жабка. Жалезная!

2-я Жабка. Карычневая!

3-я Жабка. Жаба ў танку!

Жаба *(строга)*. Ну ўсё, годзе! Жабкі! Паўторым яшчэ раз нашу песню. Надыходзіць вечар.

Жабкі паслухмяна ўсаджваюцца на купінах. Жаба вытрымлівае патрэбную паўзу і ўзмахвае лапкамі.

1-я Жабка, 2-я Жабка, 3-я Жабка *(разам)*

Ку-ааа, ку-ааа,
Кум-ма, кум-ма,
Што вячэраць вар-рыла?
Бур-ракоў не было –
Бр-ручкі навар-рыла,
Ку-ааа, ку-ааа,
Ку-ааа, ку-ааа,
Ку-ааа, ку-ааа...

## З'ява чацвёртая

Балота. Хмызы ды чараты. Удалечыні блішчыць акенца вады... Пакрыўджаная, самотная Чарапашка спавядаецца Ляляцы ў сваіх бедах.

Чарапашка. І чаму я нарадзілася такая няўклюдная ды непрыгожая? Карычневая, закутая ў жалезны панцыр... Эх, Ляляка, нікому я не патрэбная. Не ўмею скакаць і спяваць... Ніхто не хоча гуляць са мной. Нікому не падабаюцца мае казкі і вершы-песні. Няўжо яны такія дрэнныя, Ляляка? Паслухай. *(Ціхенька спявае-рыпіць.)*

Свеціць месячык  
З гары  
На глыбокія  
Віры.  
На шчытах  
У чарапах  
Сіняе святло  
Гарыць...

І трэба ж было такому здарыцца, што якраз у гэты час на балоце з'явіўся маэстра Салавей. Ён шукаў Жабак, якім абяцаў паслухаць іхнія спевы. А замест таго выпадкова натрапіў на Чарапашку.

Салавей. Цудоўна! Я проста ў захапленні!

Чарапашка змаўкае і сарамліва прыціскае да сябе Ляляку. А Салавей, не звяртаючы на спалоханую Чарапашку аніякае ўвагі, адразу пачынае шукаць патрэбнай мелодыі для пачутай песні.

*(У творчым запале.)* З гары – на віры, ціp-лі-лі-лі-лі! *(Насвіствае.)* Не, не тое. *(Насвіствае.)* Ага, гэта ўжо бліжэй. *(Насвіствае і знаходзіць нарэшце патрэбную мелодыю ды манеру выканання.)* Во, тое, што трэба!

Чарапашка *(нясмела)*. Кх-кх!.. *(Спрабуе звярнуць на сябе ўвагу.)*

Салавей *(прачышчае горла)*. Кх-кх! *(Спявае гучна і прыгожа.)*

Свеціць месячык  
З гары  
На далёкія  
Віры...

Ч а р а п а ш к а *(папраўляе).* На глыбокія.

С а л а в е й. Што-што?

Ч а р а п а ш к а *(асмялеўшы).* Віры — не далёкія, а глыбокія.

Салавей нарэшце заўважае Чарапашку і вяртаецца ад свету музыкі да рэальнага жыцця.

С а л а в е й. Ах, так, глыбокія. Прашу прабачэння, калі завучваеш песню з голасу, часам памыляешся.

Ч а р а п а ш к а. А ты — хто?

С а л а в е й *(з пачуццём уласнай годнасці).* Я — маэстра Салавей. А ты?

Ч а р а п а ш к а. А я — Чарапашка.

С а л а в е й. Дзе ты вывучыла такую прыгожую песню, Чарапашка?

Ч а р а п а ш к а *(сарамліва).* Табе сапраўды яна падабаецца?

С а л а в е й. Я ў захапленні!

Ч а р а п а ш к а. Я сама яе прыдумала. Але я не ўмею спяваць.

С а л а в е й. Ну і што з таго? А я не ўмею прыдумваць песняў. Затое — добра спяваю. Давай сябраваць, Чарапашка?

Чарапашка не можа паверыць у тое, што чуе: сам маэстра Салавей прапаноўвае ёй сяброўства! Ёй, няўклюднай і адзінокай Чарапашцы, з якой нават Жабкі адмовіліся сябраваць!

Ч а р а п а ш к а. Сябраваць? Але ж я — карычневая, у панцыры. Хіба можна з такой сябраваць?

С а л а в е й. А я — шэры і без панцыра. Можа, мне якраз бракуе панцыра — з маім пяшчотным, чуллівым сэрцам. Хіба гэта галоўнае?

Ч а р а п а ш к а. А што?

С а л а в е й. Галоўнае — мы любім спевы і патрэбныя адно аднаму. Ты будзеш прыдумваць песні, а я выконваць іх.

Ч а р а п а ш к а *(сама сабе).* А Жабкі казалі, што са мной сябраваць нельга. Бо я карычневая, а не зялёная. Бо я нічога не ўмею...

С а л а в е й. Глупства! Жабкі памыліліся.

Ч а р а п а ш к а. Памыліліся?

С а л а в е й. Так. Таму не бяры іхнія словы да сэрца. Я дарэчы якраз прыляцеў сюды паслухаць, што яны ўмеюць... Бывай, Чарапашка, неўзабаве сустрэнемся. *(Спявае.)*

На шчытах
У чарапах
Сіняе святло
Гарыць...

Выпраўляецца шукаць Жабак.

Ч а р а п а ш к а *(услед).* Бывай, Салавей! Мы з Лялякай любім цябе і будзем чакаць... Паляцеў. *(Да Ляляхі.)* Пойдзем, Ляляка, я раскажу табе самую цікавую і прыгожую казку на свеце: казку пра Салаўя і Ружу...

Разам з Лялякай знікае ў чаратах.

**З'ява пятая**

А вось і Ж а б к і. Яны расселіся па купінах і рыхтуюцца спяваць. Ж а б а абхаджвае С а л а ў я, імкнецца выклікаць прыязнасць у «залётнай» знакамітасці да свайго хору.

Ж а б а. Ах, маэстра, мы так рады, што вы ўшанавалі нас сваім наведваннем!

1-я Ж а б к а. Мы рады!

2-я Ж а б к а. Нам прыемна!

3-я Ж а б к а. Мы ганарымся!

С а л а в е й. Хіба я мог адмовіць сапраўдным аматарам спеваў?

1-я Ж а б к а. Вы чулі? Вы чулі, што сказаў Салавей?

2-я Ж а б к а. Ён назваў нас сапраўднымі аматарамі спеваў!

3-я Ж а б к а. Сам знакаміты маэстра!

С а л а в е й. Аднак пачнём. У мяне сёння яшчэ прэм'ера песні ў святочным канцэрце на Галоўнай паляне.

1-я Ж а б к а. Ах, святочны канцэрт!

2-я Ж а б к а. На Галоўнай паляне!

3-я Жабка. Прэм'ера песні!

Жаба. Жабкі! Увага! Мы пачынаем!

Зрабіўшы грацыёзны паклон у бок Салаўя (грацыёзны, на яе погляд), узмахвае лапкамі і пачынае дырыжыраваць.

1-я Жабка, 2-я Жабка, 3-я Жабка *(разам)*

Ку-ааа, ку-ааа,
Кум-ма, кум-ма,
Што вячэраць вар-рыла?
Ку-ааа, ку-ааа...

Салавей *(робіць заўвагу).* Крыху вышэй!

Жаба *(незадаволена).* Я ж вам казала...

1-я Жабка, 2-я Жабка, 3-я Жабка *(разам)*

Боршч, боршч,
Буракі, бура-кі-кі-кі-кі.

Салавей. А тут — ніжэй!

1-я Жабка, 2-я Жабка, 3-я Жабка *(разам)*

Ку-ааа, ку-ааа,
Кум-ма, кум-ма
Боршчык вар-рыла,
Ку-ааа, ку-ааа.

Салавей апладзіруе. Жабкі раскланьваюцца.

Салавей. Што ж, няблага. Не шкадую, што прыляцеў вас паслухаць.

1-я Жабка. Ура! Ура!

2-я Жабка. Ён не шкадуе, што прыляцеў!

3-я Жабка. Сам Салавей!

Жабкі скачуць ад радасці вакол Салаўя і Жабы.

Салавей *(працягвае).* Больш таго *(робіць паўзу),* я рэкамендую капельмайстру Дразду ўключыць вашае выступленне ў адзін з канцэртаў на Галоўнай паляне.

Уражаныя Жабкі застываюць на месцы, а пасля скачуць з яшчэ большым імпэтам.

1-я Жабка. Нашае выступленне!

2-я Жабка. На Галоўнай паляне!

3-я Ж а б к а *(расчулена).* Маэстра, мы не ведаем, чым заслужылі такі давер!

Салавей раскланьваецца і збіраецца пакінуць Жабак, але раптам нешта ўспамінае.

С а л а в е й. Ах, ледзь не забыўся. От толькі песню для выступлення вам трэба знайсці іншую. Лепшую.

1-я Ж а б к а. Іншую?

2-я Ж а б к а. Лепшую?

3-я Ж а б к а. Дзе нам яе ўзяць?

Ж а б а *(разгублена).* Але мы не ведаем іншых песняў! Дзе нам узяць лепшай?

С а л а в е й. Не ведаю. Шукайце.

Ж а б а. Скажыце, маэстра, а якую песню будзеце спяваць сёння вы?

С а л а в е й. О, гэта цудоўная песня. Паслухайце. *(Спявае.)*

Свеціць месячык
З гары
На далёкія
Віры.
На шчытах
У чарапах
Сіняе святло
Гарыць...

1-я Ж а б к а. Недзе я ўжо чула гэтую песню!

2-я Ж а б к а. Яе ж спявала тая страшыдліна ў жалезным панцыры!

3-я Ж а б к а. Чарапашка!

Ж а б а *(хвалюецца).* Прабачце, маэстра, а дзе вы ўзялі гэтую цудоўную песню?

С а л а в е й *(з гонарам).* Яе напісала мая сяброўка Чарапашка.

Ж а б а. Ох, трымайце мяне, мне дрэнна...*(Страчвае прытомнасць, і Жабкі ледзь паспяваюць падхапіць свайго дырыжора.)*

Жабкі ўстрывожана перашэптваюцца.

1-я Ж а б к а. Цвёрдая?

2-я Ж а б к а. Карычневая?

3-я Жабка. Якая не ўмее скакаць?
1-я Жабка. Сяброўка самога Салаўя?
2-я Жабка. А мы не ўзялі яе ў хор!
3-я Жабка. Прыдумвае песні для знакамітага маэстра!

Здзіўлены Салавей занепакоена пазірае на Жабу.

Салавей. Што гэта з ёй?

Ачуняўшы, Жаба накідваецца на Жабак.

Жаба. Вы яшчэ тут, дурніцы? Ану, марш шукаць Чарапашку, перапрашаць яе!

Жабкі разбягаюцца.

Салавей. А што здарылася? Я не разумею...
Жаба. Ах, маэстра, сёння раніцай мы запрасілі вашую сяброўку Чарапашку ў наш хор. А яна адмовілася. Можа, да вечара яна перадумае і згодзіцца?

## З'ява шостая

Вяртаюцца Жабкі з Чарапашкай. Жабкам сорамна перад Чарапашкай, у іх вінаваты выгляд.

Жаба. Прабач, Чарапашка! Мы бяром цябе ў свой хор! Мы будзем спяваць твае песні!
1-я Жабка. Сябраваць з табой!
2-я Жабка. Слухаць твае казкі!
3-я Жабка. Навучым цябе гуляць у «Куст — дрэва — вецер».
Чарапашка *(здзіўлена)*. Але ж я карычневая...
1-я Жабка. Які прыгожы колер!
Чарапашка *(недаверліва)*. Я цвёрдая...
2-я Жабка. Якое шчасце!
Чарапашка. У мяне жалезны панцыр...
3-я Жабка. Мы табе зайздросцім!

Чарапашка заўважае Салаўя.

Чарапашка. Салавей, ты чуў?

Салавей. Чуў, Чарапашка, я ж казаў табе, што Жабкі памыляліся.

Чарапашка. Што мне рабіць, Салавей?

Салавей. Ты не хочаш сябраваць з Жабкамі?

Чарапашка. Хачу. Але я ім не веру.

Салавей. Чаму?

Чарапашка. Яны жорсткія.

Салавей. Яны проста дурныя.

Чарапашка. Яны няшчырыя.

Салавей. Яны проста дурныя.

Чарапашка. Яны ліслівыя.

Салавей. Яны проста...

Чарапашка. ...дурныя.

Салавей. Так. І мне іх шкада, Чарапашка.

Чарапашка. Мне таксама.

Салавей. Які ж будзе твой адказ?

Чарапашка паварочваецца да Жабак.
3-я Жабка нясмела падыходзіць да Чарапашкі і гладзіць яе лапкай па панцыры.

3-я Жабка. Даруй, Чарапашка. Мы болей не будзем.

Чарапашка. Я карычневая, а вы зялёныя...

3-я Жабка *(вінавата)*. Ку-ааа...

Чарапашка. Я цвёрдая, а вы мяккія...

2-я Жабка *(вінавата)*. Ку-ааа...

Чарапашка. Я поўзаю, а вы скачаце...

1-я Жабка *(вінавата)*. Ку-ааа...

Чарапашка. Я не ўмею спяваць, а вы не ўмееце прыдумваць песні і казкі...

Жаба *(вінавата)*. Ку-ааа, ку-ааа...

Чарапашка. Але я дарую вам былыя крыўды і буду з вамі сябраваць. Усе жывёлы розныя. Жывыя – усе прыгожыя. *(Дастае Ляляку.)* Праўда, Ляляка?

1-я Жабка. Ура! Яна даравала!

2-я Жабка. Яна не крыўдуе!

3-я Жабка. Будзе з намі сябраваць!

Жаба *(з гонарам).* Мы будзем спяваць яе песні ў святочным канцэрце на Галоўнай паляне.

Жабкі наладжваюць вакол Чарапашкі карагод.

Салавей *(да гледачоў).* Вось бачыце, як усё добра скончылася? А магло быць зусім інакш. Тут бы сабе Жабкі весела спявалі дурныя словы добрымі галасамі. А там бы Чарапашка, якая не мае голасу, але ведае добрыя словы, ляжала б сабе на вадзе пад святлом месяца, пакрыўджаная і адна-адзінюсенькая. І нашто, калі ты зялёны і мяккі, лаяць таго, хто карычневы і цвёрды? Ты вось ходзіш на дзвюх нагах, а кот — на чатырох. І няхай сабе.

Чарапашка, Салавей, Жабкі *(спяваюць)*

Свеціць месячык
З гары
На далёкія
Віры.
На шчытах
У чарапах
Сіняе святло
Гарыць...

*Заслона*